ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№3 (84) сакавік 2018 год
CATHOLICNEWS.BY

## Маці Тэрэза: несці святло тым, хто ў цемры


Стар. 4–5

## Ксёндз Аляксандр Баран: "Усе найлепшыя думкі прыходзяць у касцёле!"


Стар. 8–9

## Касцёл і Брацтва святога Пія X


Стар. 11

# Вялікдзень 2018




**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, дарагія дыяцэзіяне!**

***"Тады ўвайшоў і другі вучань, што прыбег першы да магілы, убачыў і паверыў"*** (Ян 20,8). Пустая магіла, скручаныя палотны і яшчэ жывая ў памяці падзея Вялікай Пятніцы прывялі апосталаў да веры ва Уваскрасенне. Іх сведчанне стварае сёння падмурак нашай веры ў перамогу Хрыста над грахом і смерцю!

Радасным "Аллелюя" мы зноў вызнаем праўду пра тое, што Езус жыве! Вяртаючыся да Евангельскіх падзей, мы прагнем разам з апосталамі перажыць іх здзіўленне і радасць ад сустрэчы з Уваскрослым Хрыстом. Прайсці па дарозе ў вёску Эмаус, услухоўваючыся ў тлумачэнне прароцтваў Святога Пісання, разам з апосталам Пятром закінуць сеці ў возера на слова Уваскрослага Настаўніка, Які стаіць на беразе і чакае, каб накарміць сваіх вучняў рыбай і хлебам. І, безумоўна ж, разам з апосталам Тамашам дакрануцца да ранаў Збаўцы, вызнаючы, што яны належаць ***"...майму Пану і майму Богу"*** (пар. Ян 20,28).

Гэта не павінны быць толькі ўспаміны. Уваскрослы Езус і сёння прагне ісці з намі дарогамі нашага жыцця, быць дапамогай і падтрымкай у нашай працы, туліць нас да Свайго Параненага Сэрца ў хвіліны выпрабаванняў і роспачы. Ён і надалей прысутны сярод тых, хто Яго шукае, і надалей прыходзіць да нас у сваім Слове, Сакрамантах і ў іншым чалавеку. Бо як Сам сцвярджаў, паводле Евангеліста Мацвея: ***"...Вось Я з вамі ва ўсе дні, аж да сканчэння веку"*** (Мц 28.20).

Жадаю вам, дарагія браты і сёстры, каб няспынна памяталі пра гэтую прысутнасць Уваскрослага Збаўцы не як суровага суддзі, а як літасцівага Сябра і Міласэрнага Айца. Бо Ён ведае людское жыццё, яго пасткі, недахопы і сапсаванасць, а разам з тым ведае, як зрабіць яго лепшым. Няхай дзякуючы такой веры ваша радасць будзе поўнай, надзея трывалай, а любоў дзейснай!

**Хрыстос уваскрос! Аллелюя! Са святам! Божага супакою, святла і бласлаўлення!**

**+Алег Буткевіч, Біскуп Віцебскі**

## Людміла Сінкевіч: "Вачамі веры я бачу анёлаў у сваім жыцці"


Стар. 7

# Святы Айцец наведае краіны Балтыі






**Прымаючы запрашэнне адпаведных дзяржаўных уладаў і мясцовых біскупаў, 22-25 верасня 2018 г. Папа Францішак здзейсніць Апостальскае падарожжа ў краіны Балтыі.**

У Літве Пантыфік наведае Вільнюс і Каўнас, у Латвіі – Рыгу і Аглону, у Эстоніі – Талін. Візіт у балтыйскія краіны стане для Папы Францішка ўжо 23-м падарожжам за межы Італіі. Апошнім Пантыфікам, які наведваў Літву, Латвію і Эстонію, быў св. Ян Павел ІІ. Яго падарожжа праходзіла 4-10 верасня 1993 г.

*Ватыканскае радыё*

# 75 гадоў шлюбаў законных адзначыла сястра Францішка Гайлеш



**21 сакавіка ў Полацку сёстры-эўхарысткі дзякавалі Богу за 75 гадоў шлюбаў законных сястры Францішкі Гайлеш. Каб разам памаліцца і павіншаваць манахіню, эўхарысткі прыехалі з Браслава, Слабодкі, Друі і Барысава.**

■ **с. Таццяна Гмыза**

Як адзначыў пробашч парафіі кс. Францішак Кісель падчас святой Імшы, “кангрэгацыі сясцёр 95 гадоў, таму сястра Францішка бачыла амаль усю гісторыю развіцця супольнасці”. Літургію ўпрыгожыў спеў хора сяцёр. А пасля святой Імшы маці-настаяцельніца Антаніна і ўсе законніцы з супольнасці сардэчна павіншавалі сястру Францішку з такой цудоўнай гадавінай.



Сястра Францішка нарадзілася 7 лютага 1924 года ў вёсцы Казакова Мёрскага раёна. Сакрамант хросту прыняла ў парафіі Святой Тройцы ў Друі. Скончыла 7 класаў. У пастулят прынялі яе 9 лютага 1942 года ў Друі. Прыняла яе с. Юзэфа Жук, якая ў той час была настаяцельніцай.

Першыя шлюбы сястра Францішка склала 3 кастрычніка 1943 года. Яна пражыла складанае жыццё: падчас рэпрэсій ў 50-ых гадах яе сям’я хавала ў сябе святароў, а калі забралі іх у вязніцу, сястру Францішку арыштавалі разам з імі. Пасля разам з іншымі сёстрамі яна наведвала святароў у вязніцы і дапамагала ім патрэбнымі рэчамі. Самі сёстры ў той час часта галадалі і пераследаваліся. Але любоў да Хрыста і Яго касцёла давала ім сілы і натхненне.

Сястра Францішка працавала ў Друі, Слабодцы, Браславе, Ідолце, Удзеле, таксама некаторы час у Літве. Цяпер яна ў Полацку. Праз сваю малітву і цярпенне, якое ахвяруе Богу, дапамагае сёстрам у апостальскай працы.

Няхай Добры Бог атуляе сястру Францішку неабходнымі ласкамі, а ахвяра яе жыцця прынясе багаты плён!

## Што Вы больш практыкуеце ў часе Вялікага посту?

**“Каталіцкі Веснік” даведаўся, што найбольш практыкавалі вернікі ў часе Вялікага посту: пост, малітву або міласціну.**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:

- Практыкую ўсе гэтыя спосабы або некалькі – 100 адказаў;
- Малітву – 69 адказаў;
- Пост – 55 адказаў;
- Міласціну – 17 адказаў;
- Нічога з пералічанага не выкарыстоўваю – 14 адказаў;

**Усяго – 255 адказаў.**

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***



# Начное чуванне моладзі ў Полацку

**"Не рэтушуйце свайго сэрца" — пад такой назвай з 17 на 18 сакавіка ў Полацку адбылося Дыяцэзіяльнае чуванне моладзі. Каля 130 маладых людзей з Полацка і Наваполацка, Браслава і Мёраў, Мосара і Пастаў, Варапаева і Глыбокага, Оршы і Віцебска прынялі ў ім удзел.**

**с. Таццяна Гмыза**



Сустрэча распачалася канферэнцыяй, якую прамовіў ксёндз Алег Хмылко. Абапіраючыся на словы і навуку для моладзі Папы Францішка, святар прыблізіў актуальную для маладых людзей тэму пра тое, што можна змяняць, так сказаць «рэтушаваць» сваё сэрца, паставу, сваю рэальнасць. Але Езус прагне бачыць людзей сапраўднымі, Ён хоча, каб чалавек не хаваўся ад сябе і рэчаіснасці ў віртуальны свет, а для сучаснага маладога чалавека гэта вельмі актуальна.

Пасля вясёлай сяброўскай вячэры, дзе моладзь магла сустрэцца разам і дзяліцца сваёй радасцю, адбылося прадстаўленне парафій. Хтосьці спевам, хтосьці пантамімай дапамог наблізіць разважанне на тэму Вялікага посту і тэмы начнога чування. Падчас такіх прадстаўленняў кожны адчуваў падтрымку, бо гэта момант, дзе можна падзяліцца сваім талентам з іншымі.

Удзельнікі ахвотна карысталіся і з магчымасці споведзі. Пры канфесіяналах арганізаваліся вялікія чэргі. Таксама можна было паразмаўляць са святаром.

Святую Імшу апоўначы ўзначаліў Віцебскі біскуп Алег Буткевіч. У гаміліі іерарх нагадаў, што час Вялікага посту — гэта час, калі павінны пазбавіцца фальшывых вобразаў. І толькі Езус можа ачысціць нашае сэрца. Пасля Літургіі моладзь дыяцэзіі павіншавала біскупа Алега з днём нараджэння, жадаючы шмат сілаў і натхнення.

Падчас гарбаты можна было паслухаць крыху жывой музыкі, гучаў раяль. Усе пункты праграмы чування рыхтавала моладзь, таму была заўважана зацікаўленасць саміх маладых людзей у арганізацыі.

Падчас Адарацыі і Крыжовага Шляху можна было зрабіць добры рахунак сумлення, паглядзеўшы ўсур'ёз на сваё жыццё. Гэта заўсёды момант асабістай сустрэчы з Езусам. Па тварах маладых людзей было бачна, што малітва пранікала ў сэрца і ў будучым прынясе багаты плён.

Другую катэхезу дапамагалі праводзіць аніматары, якія ў сваёй групе на розны спосаб тлумачылі Евангелле з нядзельнай Літургіі. Актыўныя заданні дапамаглі маладым людзям упоўні чуваць.

Малітвай на ружанцы і святарскім бласлаўленнем скончылася чарговае чуванне моладзі. Кожны ад'язджаў напоўнены радасцю і супакоем, а па словах удзельнікаў можна з упэўненасцю казаць, што такія сустрэчы проста неабходны сучаснаму маладому чалавеку.



***

Я помню: ў дзяцінстве, шчаслівым, вясёлым,
Вяскоўцы ў Вялікдзень спявалі васолы.
Хадзілі гурбою ад хаты да хаты
І дзячыў ім кожны, на што быў багаты.

Давалі каўбасы, і яйкі, і булкі,
Збіралі ў кашы яны ўсе пачастункі,
А потым, калі завяршаўся абход,
Да рання гуляў, весяліўся народ.

Дзятвою таксама і мы святкавалі,
Чырвоныя яйкі хадзілі, збіралі.
Гучала-звінела да самых нябёс:
"Хрыстос уваскрос!" – "Сапраўды ўваскрос!"

Міналіся хутка гады за гадамі,
Дарослымі сталі даўно ўжо самі.
І больш не спяваюць у вёсцы васолы,
Як там, у дзяцінстве, шчаслівым, вясёлым.

Змяніліся мы, і змяніліся звычкі,
І кожны ўжо іншыя мае прывычкі.
Ды толькі нязменна ляціць да нябёс:
"Хрыстос Уваскрос!"– "Сапраўды ўваскрос!"

*Даната Варабей,*
*г.Мядзел*



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: парафіяне з Глыбокага, Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Слабодка)*, **Марыя Вансовіч** *(Паставы)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Лямберта Дуткевіч** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Францішка Звяжынская** *(Малэйкаўшчына)*, **Крысціна Клышэйка** *(Малэйкаўшчына)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенка** *(Мосар)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Ірэна Бука** *(Радзюкі)*, **Алена Кукліна** *(Баравуха)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф'янава)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Відзы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Галіна Міхалевіч** *(Мосар)*, **Эвеліна Агуліна** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Радзюкі)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Зенона Алексніна** *(Браслаў)*, **Дана Шчоцкая** *(Ценюкоўшчына)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Антаніна і Ганна Дарашкевіч** *(Янковічы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Лоўскіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Віткоўская В.М.** *(Шудаўцы)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Плюшчык Т.М.** *(Стралкі)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Міхайлоўская Д.К.** *(Мураваная Ашмянка)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Мікіта Скур'ят** *(Мацешы)*, **Тэрэса Скур'ят** *(Мацешы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

Усіх сардэчна віншуем са Святам Вялікадня! Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

# Маці Тэрэза: несці святло



**Аксана Нядвецкая**

Маці Тэрэза перажывала таямнічыя сустрэчы з Хрыстом. Першая такая сустрэча адбылася ў аўторак, 10 верасня 1946 г. Маці Тэрэза ехала на духоўныя практыкаванні ў Дарджылінг, сама ж у той час жыла і працавала ў Калькуце. З гэтага дня яна адлічвала гісторыю новай манаскай сям'і. У рэестры, куды заносяць дадзеныя ўсіх сясцёр, якія ўступаюць у супольнасць, насупраць свайго імя маці Тэрэза пазначыла: "Дата ўваходжання ў кангрэгацыю – 10 верасня 1946 г." Дазвол на стварэнне новай манаскай супольнасці, дарэчы, маці Тэрэза атрымала толькі ў 1948 г.

Праз некаторы час маці Тэрэза распавяла пра "Голас", які пачула на шляху ў Дарджылінг:

*"Это было словно призвание внутри призвания. Второе призвание. Мне было велено оставить Лорето, где я была счастлива, и выйти на улицу, чтобы служить беднейшим из бедных. Я ехала в поезде, и вдруг явственно услышала, как Бог зовет меня оставить все, следовать за ним в трущобы – служить Ему в бедняках... Я точно знала: это Его воля, и я должна идти за Ним. Сомнений не оставалось: пришло время Его деяний".*

Напачатку а. Ван Эксэм загадаў маці Тэрэзе забыцца пра ўсё, што здарылася ў цягніку. На працягу чатырох месяцаў будучая "калькуцкая святая" прасіла духоўніка дазволіць ёй звярнуцца да арцыбіскупа Калькуцкага, але кожны раз а. Ван Эксэм адмаўляў.

Вось некалькі просьбаў, якія маці Тэрэза запісала ў нататнік у верасні 1946 г. (яна называла іх "Голасам", і а. Ван Эксэм, і нават арцыбіскуп Пер'е былі схільныя лічыць, што "голас гэты ад Бога"):

*"Неужели ты не поможешь? Мне нужны свободные монахини, облеченные в бедность Креста. Мне нужны кроткие монахини, облеченные в послушание Креста. Мне нужны любящие монахини, облеченные в милость Креста.*

*Ты не умирала ради душ, вот почему тебе безразлично, что с ними будет. Твое сердце никогда не сжималось от скорби, как сердце Моей Матери.*

*Ты будешь одеваться, как индианка, или, вернее, как Моя Матерь – просто и бедно. Твое нынешнее облачение свято, ибо оно Мой знак. Твое сари тоже будет свято, ибо оно тоже станет Моим знаком.*

*Мне нужны индийские монахини, Миссионеры милосердия, которые принесут пламя моей любви бедным, больным, умирающим, детям.*

*Неужели ты Мне откажешь?" ***

Агнэс Гонджа Баяджыу нарадзілася ў 1910 г. у македонскім горадзе Скоп'е і была малодшай у сям'і косаўскіх албанцаў. З 12-гадовага ўзросту Гонджа марыць пра прысвячэнне свайго жыцця служэнню бедным. Калі ёй спаўняецца 18 гадоў, Гонджа адпраўляецца ў Ірландыю і ўступае ў ордэн Ларэтанскіх сясцёр. Там абірае сабе новае імя – Тэрэза. Вечныя манаскія шлюбы сястра Тэрэза склала ў 1937 г. у індыйскім Дарджылінгу. З таго часу па звычаі Ларэтанскіх сясцёр не пачалі называць маці Тэрэзай.

У красавіку 1942 г. маці Тэрэза дае асабісты духоўны абет, які ў дзённікавых запісах фармулюе так: *"Обещаю Богу, что исполню все, о чем бы Он ни попросил. Под страхом смертного греха обещаю не отказывать Ему ни в чем".*

У 1946 г. маці Тэрэза ўпершыню пачула "Голас": просьбу Пана Езуса аб стварэнні супольнасці бедных манахінь, Яго неаднойчы паўторанае "Прагну" і "Няўжо ты Мне адмовіш?"

Да канца 1946 г. маці Тэрэза працавала ў школе Святой Марыі ў Калькуце. Затым яе раптоўна перавялі ў Асансол: пільныя сёстры заўважылі, што маці Тэрэза зашмат часу праводзіць у спавядніцы, магчыма, паміж ёю і духоўнікам "штосьці нячыста", і на ўсялякі выпадак данеслі касцельнаму начальству пра абаіх – а. Ван Эксэма і маці Тэрэзу. Айцец Селест Ван Эксэм, святар-езуіт бельгійскага паходжання, быў духоўнікам маці Тэрэзы з 1944 г. Яму яна давярала поўнасцю і яму адзінаму адкрыла праўду пра таямнічы "Голас" па дарозе ў Дарджылінг. Першы ліст да арцыбіскупа Пер'е, атрымаўшы дазвол духоўніка, маці Тэрэза напісала з Асансола 25 студзеня 1947 г.

Арцыбіскуп не спяшаўся з адказам, разважаў, чакаў, прасіў маці маліцца і быць паслухмянай свайму ордэну. Маці Тэрэза, ні на хвіліну не забываючыся пра Хрыстова "Прагну", пісала арцыбіскупу ліст за лістом. "Можаце пачынаць," – пачула маці Тэрэза 6 студзеня 1948 г. Арцыбіскуп раіўся з духоўнікам маці Тэрэзы, абмяркоўваў ідэю з вядомым ватыканскім багасловам, а таксама з двума святарамі, якія добра ведалі мясцовую сітуацыю.

**Словы Езуса (г.зн. "просьбы Хрыстовы") пададзены ў тым парадку, у якім маці Тэрэза прывяла іх у лісце арцыбіскупу Пер'е ад 13 студзеня 1947 г. Паводле гэтага ліста, "Голас" звяртаўся да маці Тэрэзы неаднаразова на працягу верасня 1946 г., бывала, просьбы паўтараліся, у яе нататніку некалькі варыянтаў адных і тых жа просьбаў.

**Маці Тэрэза – арцыбіскупу Пер'е, Асансол, 25 студзеня 1947 г.*:**

*"Ваше Высокопреосвященство, отец Ван Эксем передал, что Вы мне напишите – письмо до сих пор не пришло – вероятно, все дело в том, что почта здесь работает из рук вон плохо.*

*Что касается "работы". Я крепко молилась о том, чтобы понять, сколько в идее от моей самости, сколько – от эмоций.*

*Что касается излишней чувствительности, Вы ведь не станете отрицать, что Господь совершил для Вас немало чудес за эти двадцать пять лет. Поэтому Его просьба так же естественна, как и сверхъестественна. А что на нее ответить, зависит только от Вас".*

**Арцыбіскуп Пер'е – маці Тэрэзе, Калькута, 19 лютага 1947 г.:**

*"Дорогая мать Мария Тереза, Pax Christi!*

*Отвечаю на Ваши письма от 13 и 25 января. Как я уже говорил о.Ван Эксему, когда он передал мне Ваше первое письмо, дело слишком серьезно, чтобы оно разрешилось тут же, в один день и даже в один месяц. От Вас сейчас нужно только одно: усердная молитва. Мне же потребуется время не только для молитвенных размышлений, но и для того, чтобы продумать все наперед и понять, каким путем нам должно идти сейчас и в будущем... Я не могу и не стану что-либо говорить о Вашей идее прежде, чем меня вразумит и наставит Святой Дух.*

*В июле я буду в Риме и, не называя Вашего имени, представлю дело церковным властям, а там посмотрим, одобрят они его или нет.*

*Надеюсь вернуться в сентябре или октябре. Пока же продолжайте молиться в тишине и духовном мире".*

**Маці Тэрэза – арцыбіскупу Пер'е, Асансол, да 7 сакавіка 1947 г.:**

*"Ваше Высокопреосвященство, огромное спасибо за письмо. Вполне понятно, что сейчас Вы ничего не станете делать и не будете спешить с ответом. Когда-нибудь оно [разрешение] непременно придет, и, уверена, Вы тут же, первым, станете во всем помогать нашей юной Конгрегации.*

*Вы пишете, что хотели бы представить дело церковным властям в Риме, где его со всей строгостью изучат. Я была бы крайне признательна, если бы Вы поговорили об этом со Святейшим Отцом. Уверена, он поймет.*

*Расскажите Святейшему Отцу и о том, как мне хочется стать всем для всех. Покажите ему мое последнее письмо. У меня нет доказательств, но я точно знаю, что зовет нас Бог. А если ничего не выйдет, я не боюсь. Даже если одну семью, одно бедное дитя, сделает счастливей любовь Христова, скажите, разве не стоит отдать ради этого все?! Разве это не стоит всех Ваших беспокойств?!*

*Будьте так добры, передайте о. Ван Эксему, что я не могу писать ему в обход матери настоятельницы. Я привыкла рассказывать ему обо всем, но теперь придется ждать, пока я не увижусь с ним на исповеди".*

**Арцыбіскуп Пер'е – маці Тэрэзе, 7 сакавіка 1947 г.:**

*"Дорогая мать Тереза Р.Х.!*

*Сердечно благодарю Вас за письмо; я нашел его по возвращении из пастырской поездки в Сантал-Парганас. Из того, о чем Вы пишете, у меня создалось впечатление, будто Вы считаете меня противником Ваших начинаний и усердно молитесь о смягчении моего сердца.*

*Я не против Вашей задумки и не за нее; положение архиепископа обязывает меня оставаться на данном этапе лицом незаинтересованным. Я приму Божью волю, но прежде она должна быть мне ясна. Вам, наверное, кажется, что все это очень просто, особенно, когда есть кто-то, на кого можно переложить ответственность. Но от того, кто эту ответственность несет, понадобится очень кропотливое различение, молитва, неустанная, усердная молитва и, конечно, готовность исполнить Божью волю, когда она будет явлена несомненно".*

*Вытрымкі з лістоў маці Тэрэзы цытуюцца па выданні: **"Мать Тереза. Будь моим светом"**, сост. о. Б. Колодейчук М. С., Москва: "Книжный Клуб 36.6", 2010.

Маці Тэрэза пісала на англійскай мове, у рускім перакладзе захаваны яе стыль і своеасаблівая пунктуацыя.

# тым, хто ў цемры



Усе старанна вывучылі запісы маці Тэрэзы (так званыя "просьбы Хрыстовы", "бачанні і галасы" да ўвагі не прымаліся) і, не дамаўляючыся, вырашылі, што, падтрымаўшы ідэю стварэння новай кангрэгацыі, арцыбіскуп Пер'е не зграшыць супраць разважнасці.

Кангрэгацыя Сясцёр Місіянераў міласэрнасці была створана 7 кастрычніка 1950 г, і арцыбіскуп Пер'е, адказны за новую супольнасць, садзейнічаў і дапамагаў яе развіццю. Адной з мэтаў кангрэгацыі, прапісанай у дэкрэце аб стварэнні, з'яўляецца мэта "спатоліць смагу Хрыстову, Які прагне збаўлення душ". Ва ўсіх капліцах Місіянераў міласэрнасці на сцяне, побач з распяццем, размешчаны надпіс "Прагну" як напамін пра сэнс і пакліканне кангрэгацыі.

13 сакавіка 1997 г., незадоўга да смерці, маці Тэрэза склала з сябе абавязкі па кіраўніцтве кангрэгацыяй. На той момант ордэн налічваў больш за 4000 сясцёр, якія працавалі ў 610 месцах у 123 краінах свету.

У 2003 г. Папа Ян Павел ІІ аб'явіў маці Тэрэзу блаславёнай, а праз 13 гадоў – 4 верасня 2016 г. – маці Тэрэза была кананізавана. Індыя перайменавала горад Калькуту ў Калкату, каб назва адпавядала бенгальскаму вымаўленню, але пры згадванні ў сувязі з маці Тэрэзай ужываецца старая назва – святая Тэрэза Калькуцкая.

За сваё жыццё маці Тэрэза атрымала больш за 120 прэмій і ўзнагарод, у тым ліку Нобелеўскую прэмію міру ў 1979 г. У штогадовых апытаннях Гэлапа амерыканцы называлі маці Тэрэзу адной з дзесяці самых уплывовых жанчын свету васямнаццаць разоў.

Духоўны шлях маці Тэрэзы меў тры вялікія асаблівасці: асабістае абяцанне, дадзенае ў 1942 г., містычны вопыт, з якога пачалася гісторыя Місіянераў міласэрнасці, і нябачнае саўдзельніцтва ў пакутах Крыжа, у Хрыстовай Галгофе, што праявілася як жыццё ў непраглядна унутранай цемры. Цемры, якую і апісаць нельга, адзінота, нязменная туга па Богу і боль, які раздзірае сэрца…

*"Даже если я когда-нибудь стану святой,* – пісала маці Тэрэза, – *наверняка окажусь среди "святых тьмы". Я буду то и дело сбегать с небес, чтобы нести свет тем, кто во мраке".*

Перад тым як пачала працаваць над гэтым артыкулам, я прачытала шмат інфармацыі пра маці Тэрэзу. Пра яе многа пісалі ў сувязі з кананізацыяй 2016 г. І, прызнаюся, спачатку на мяне абрынулася шмат негатыўных звестак, супярэчлівых меркаванняў і незразумелых фактаў. Артыкулы называліся так: "Кому служила мать Тереза: противоречивые факты"; "Блики святых" с падзагалоўкам "Многие сомневаются, стоит ли причислять к лику святых благотворительницу с непрозрачной отчетностью и сомнительными достижениями"; "Святая несвятая жестокая мать Тереза"; "Мафиози Бруско: Если Мать Тереза святая, то я – Иисус Христос!" Я думаю, вы здагадаліся, якой пазіцыі прытрымліваліся аўтары гэтых артыкулаў.

Пачыналіся публікацыі прыблізна так: "Мать Тереза помогла умереть многим, кого можно было вылечить. Поспособствовала тому, чтобы в муках умерли те, кто мог умереть без мук". Маці Тэрэзу абвінавачвалі ў сувязях з палітыкамі, "адмыванні грошай", у жорсткім абыходжанні з хворымі (напрыклад, у тым, што людзям не давалі абязбольвальных сродкаў і прапагандавалі "цярпенне для Хрыста"), а таксама ў тым, што тых, хто паміраў, хрысцілі перад смерцю без іх згоды, прыкладаючы да галавы мокры кампрэс.

Пра крытыку маці Тэрэзы абяцаю паразмаўляць з вамі ў наступных нумарах "Каталіцкага Весніка". Ад сябе скажу зараз, што вышэйпералічаная негатыўная інфармацыя ніяк не абвяргае для мяне ўсё тое, што напісана пра маці Тэрэзу ў хрысціянскіх артыкулах і выданнях. Больш за тое, інакш і быць не можа. Дабрачыннасць заўсёды супярэчлівая справа. Паспрабуйце зрабіць камусьці бескарыслівую добрую справу – і пачуеце шмат тлумачэнняў таго, якія мэты вы ставіце, ***бескарыслівая*** добрая справа будзе пададзена апошнім варыянтам, я ўпэўненая. А тое, што маці Тэрэза магла хрысціць людзей, якія паміралі, не чакаючы іх згоды, толькі пацвярджае для мяне яе моцнае жаданне злучыць з Хрыстом як мага больш душ.

І яшчэ. Не бойцеся, мае дарагія чытачы, сустракацца з любой інфармацыяй, нават з неправеранай Касцёлам або супярэчлівай яго вучэнню. Касцёл моцны, ваша зацікаўленасць яму не пашкодзіць. Заўсёды думайце, аналізуйце і стаўце пад сумненне ўсё, што вам падаюць. Памятайце, што ў розных аўтараў ёсць розныя мэты. А веру я б ўвогуле не будавала на якіх-небудзь друкаваных крыніцах, інтэрнэт-рэсурсах, СМІ і г.д. Дастаткова Біблії, усё астатняе – толькі дадатак.




# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Ці магчыма кантраляваць эмоцыі?

**У мінулым нумары мы размаўлялі пра тры скрыні з дарамі, якія Бог дае кожнаму чалавеку: скрыні з думкамі, эмоцыямі ды жаданнямі. Сёння адкрываем першую скрыню – з эмоцыямі.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*

Эмоцый у наборы не так і шмат насамрэч. Існуюць эмоцыі прыемныя, іх хочацца перажываць, іх чакаеш, да іх імкнешся. Такіх рэакцый маем дзве – радасць і цікавасць. Іх мы называем “пазітыўнымі”, “добрымі”. Ёсць эмоцыі цяжкія для перажывання – страх, гнеў, сорам, агіда, сум. Людзі называюць іх “негатыўнымі”, “дрэннымі”. Але трэба разумець, што ўсе эмоцыі карысныя, бо як кожная частка цела, так і кожная эмоцыя мае сваё значэнне, выконвае сваю функцыю. То бок, варта памятаць, што “негатыўнымі” мы называем тыя эмоцыі, якія карысныя і патрэбныя, але перажываць іх балюча, а “пазітыўныя” перажываць прыемна.

Ёсць і “нейтральныя” эмоцыі, а дакладней адна – здзіўленне. Здзіўленне можа быць радасным, напрыклад, здзівіцца нечаканай сустрэчы ці атрымаць жаданы падарунак без нагоды. А можа быць непрыемным: расчараванне ў блізкім чалавеку ці нечакана нізкі заробак у гэтым месяцы і г.д.

Эмоцыі – гэта псіхічныя кароткатэрміновыя працэсы, рэакцыя на канкрэтныя сітуацыі. Эмоцыі ўзнікаюць без нашага жадання, і дакладна, без нашага дазволу. Узнікненне эмоцый можна параўнаць з уздзеяннем тэмпературы на цела. Нізкія тэмпературы прыводзяць да адчування холаду – хочам мы таго ці не. Пры высокіх тэмпературах нам горача. І гэта не падкантрольна чалавеку, таксама як і наяўнасць той ці іншай эмоцыі, “негатыўнай” ці “пазітыўнай” (тут, хутчэй, пытанне, што з імі рабіць, але гэта тэма для аднаго з наступных артыкулаў).

Часта можам сутыкнуцца з праблемай разумення рэакцый чалавека. Калі нам падаецца, што эмоцыі – гэта акт волі, то мы здатныя асуджаць сябе і іншых, думаючы, што адчуваюць гнеў злыя і нястрыманыя людзі, страх – баязліўцы, а пра сорам увогуле намагаемся не казаць.

Пры такім падыходзе не застаецца нічога іншага, як толькі “выключыць” непрыемныя эмоцыі. Колькі разоў сустракаемся са словамі: “Чаго злуешся? І няма чаго тут злавацца. На маму злавацца ня трэба”, і да гневу далучаецца пачуццё віны, бо як жа гэта – злавацца нельга! “Буду радавацца хваробе, бо я ж хрысціянка”, хоць на самай справе ніякай радасці там і блізка няма, а ёсць расчараванне, страх ці гнеў. “Ну не плач, не сумуй! Вазьмі сябе ў рукі, трэба жыць далей”. Трэба то трэба, але ж у сваёй крыўдзе, гневе, са сваім сумам чалавек апынаецца адзін, без падтрымкі, без разумення, з абясцэньваннем, і самае галоўнае, усё з тымі ж ЭМОЦЫЯМІ! Яны нікуды не знікаюць, не праходзяць з аднаго толькі слова ці жадання. Як не становіцца цёпла ў халоднае надвор'е толькі праз наша “хачу не адчуваць холаду!”

Найбольш распаўсюджаныя і найбольш небяспечныя стратэгіі абыходжання з “цяжкімі” эмоцыямі – гэта падмануць сябе і іншых, робячы добры выгляд, што не маем ніякіх такіх рэакцый, асудзіць сябе за адчуванні, дадаўшы да іх яшчэ і пачуццё віны, “замяніць дрэнныя эмоцыі на добрыя”.

Варта адзначыць, што, акрамя эмоцый, маем яшчэ і пачуцці. Пачуцці больш доўгія і разнастайныя, на іх можна ўплываць. Напрыклад, каханне – гэта пачуццё, якое складаецца са шматлікіх эмоцыяў: там і радасць, і сум, і страх за каханага / каханую, і здзіўленне, і цікавасць – шмат чаго. Крыўда – пачуццё, якое мае ў сабе і расчараванне, і боль, і сум, і гнеў. Разбіраючы пачуцці на часткі, можна лепш усвядоміць прычыны іх узнікнення, іх склад, тое як з імі абыходзіцца. Пачуцці можна развіваць ці змяншаць іх інтэнсіўнасць, працуючы над імі. На эмацыйныя рэакцыі таксама можна ўплываць, аналізуючы іх, змяняючы абставіны вакол сябе на больш спрыяльныя. Але за ўзнікненне эмоцый мы не нясём адказнасць. На УЗНІКНЕННЕ эмоцый мы не ўплываем.

Калі ў нашым арганізме з'яўляецца натуральная эмацыйная рэакцыя на сітуацыю, варта “прачытаць” яе як сігнал, што паказвае нам, у якім мы зараз стане, што адбываецца вакол нас, камфортна нам у гэтым ці не. А можа, варта нешта змяніць?

“Расшыфроўваць” эмоцыі будзем у наступным артыкуле.

Дзякуй за ўвагу!

# Жыццёвыя гісторыі

**Алена Пажога**



## Свята адшукалася

8 Сакавіка раздаўся тэлефонны званок. Я ўжо настроілася прымаць чарговае віншаванне, але ў трубцы загучаў усхваляваны голас знаёмай кабеты: “Падкажыце, калі ласка, калі ў гэтым годзе будзем святкаваць Звеставанне? Мне сваячка з райцэнтра сказала, што свята перанеслі на 9 сакавіка. Дык заўтра ўжо трэба святкаваць? Але ж, здаецца, наперад святкаванне не пераносіцца. А жанчына з суседняй вёскі сказала, што святкаваць будзем 9 красавіка. А Вы што скажаце?” Я патлумачыла, што на 25 сакавіка прыпадае Пальмавая нядзеля – больш значнае свята. Таму святкаванне Звеставання перанесена на 9 красавіка. Падказала, дзе пра гэта можна прачытаць.

Жанчына доўга дзякавала і выбачалася. Потым сказала, што патэлефануе сваячцы, каб і тая не спяшалася святкаваць.

## Чужыя

Святар-паляк, які доўгі час працаваў у беларускіх парафіях, аднойчы з болем у голасе прамовіў: “Я тут, у Беларусі, чужы”.

Знаёмая настаўніца, што пасля закрыцця вясковай школы перайшла працаваць у гарадскую, хваліла новых вучняў, камфортныя ўмовы. А потым нечакана дадала: “Але я тут чужая”.

Маладая нявестка ўсімі спосабамі стараецца выселіць з кватэры свякроў. Тая спрабуе абараняцца… Чужыя людзі.

Да болю знаёма? А мы ж усе – дзеці Божыя. Браты і сёстры.

## Толькі лічбы

Летась у нашай краіне ЗАГСамі зарэгістравана 66209 шлюбаў і 8990 разводаў. Сухія лічбы. А колькі за імі скалечаных лёсаў дарослых і дзяцей?!

Ствараючы сям'ю, трэба быць гатовымі ўспрымаць рэальнасць без дарэмных спадзяванняў і залішняй злосці, разумець, што на долю сям'і выпадае шмат іспытаў. Каханне і адказнасць за блізкіх дапамагаюць пераадольваць праблемы, выпрабаванні.

Варта памятаць народнае выслоўе: “У сям'ю, дзе лад, шчасце дарогу не забывае!”

# У Табе маё збавенне

**На жаль, хваробы, здрады, нечаканая агрэсія і іншыя неспрыяльныя жыццёвыя абставіны прыходзяць да нас без запрашэння. Іх вельмі няпроста прыняць.**

**Нэля Лось**, *м. Лынтупы*

Адчайны, бязмежны боль накрыў мяне з галавой цяжкай хваляй, калі ў велікодную ноч у бальніцы памёр мой адзіны трыццацігадовы сын. Усё адбылося так хутка! Яшчэ за тры дні да трагедыі я адчувала сябе шчаслівай жонкай, мамай, бабуляй. Утульны дом поўніўся дзіцячым смехам, гучаў ласкавы голас сына: “Прывітанне, мамачка, я вярнуўся з працы!” Сямейныя абеды за вялікім сталом. Дарэчы, абед мог прыгатаваць і сын, вычытаўшы арыгінальны рэцэпт.

Яшчэ святы Аўгусцін пісаў: “Важна не тое, якія выпрабаванні зваліліся на галаву чалавека, а тое, якім чынам чалавек прымае іх”. Каталічкай-практыкам на той час назваць мяне можна было з нацяжкай. У касцёл хадзіла рэдка, спавядалася толькі перад вялікімі святамі. Я так сканцэнтравалася на сваёй страце, што зусім забылася: душы памерлага патрэбны не мае горкія слёзы, а мае шчырыя малітвы. Але Боажанька не пакінуў мяне ў дэпрэсіі і самоце, паслаў нечаканую дапамогу.

Я лячылася ў кардыялогіі ў Віцебску, там і сустрэла цудоўную жанчыну – сястру Францішку, адаратарку Крыві Хрыста. Прайшло амаль адзінаццаць гадоў з той сустрэчы, а яе цёплыя, поўныя спачування, любові і веры словы памятаю і сёння. Прынеслі яны мне суцяшэнне, выцягнулі з бездані адчаю і гора, дапамаглі пераадолець крызіс, страх і адзіноту. Сястра Францішка шмат распавядала пра Ружанец да Крыві Хрыстовай, як важна самому свядома аддаць Богу свае цярпенні і дараваць вінаватым. Прыйшло разуменне, што нашы цярпенні, малыя ці вялікія, паяднаныя ў малітве з пакутамі Езуса, валодаюць вялікай сілай, нясуць палёгку і збаўленне душам чысцовым, вызваленне пакутнікам ад алкагольнай і наркатычнай залежнасці, суцяшэнне несправядліва пакараным, апору тым, хто знаходзіцца ў роспачы. На развітанне сястра падарыла мне малітоўнік да Крыві Хрыста і ружанец. З той пары разважанні над сямю таямніцамі праліцця Яго Найдаражэйшай Крыві – мая штодзённая малітва ў Вялікім посце. Моцна веру, што падчас цяжкіх выпрабаванняў Езус не пакідаў мяне, працягваў сваю Божую і чалавечую далонь.

У кожнага з нас сваё прызначэнне, свой шлях да дому Бога Айца. Няма дарог без цярпення і болю, бо яны – неад'емная частка нашага жыцця ад пачатку і да смерці. Ужо дванаццаць гадоў, як адышоў у вечнасць мой сын, бачу яго ў снах вясёлым і прыгожым. Малюся і прашу Бога, каб душа яго спазнала шчасце вечнае.

Нясу свой крыж, малюся, каб стаўся ён для мяне крыніцай мужнасці і сілы, каб цярпенні не пазбавілі мяне надзеі, каб вера мая не згасала, а любоў грэла сэрца.

# Людміла Сінкевіч: "Вачамі веры я бачу анёлаў у сваім жыцці"



**Кожны чалавек мае сваё хобі. У мінулым нумары мы распавядалі пра святара, які збірае танкі. А зараз мы пазнаёмім вас з глыбоцкай парафіянкай Людмілай Сінкевіч, якая калекцыянуе фігуркі анёлаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



**– Людміла Іванаўна, скажыце, а чаму менавіта фігуркі анёлаў, а не маркі, значкі, паштоўкі?**

– З дзяцінства мая мама навучыла мяне малітве да анёла-ахоўніка. Малітва была на польскай мове, я тады мела гадоў шэсць і да канца не разумела, хто такі струж. Мама сказала, што мы анёлаў не бачым, але яны ўвесь час з намі прысутнічаюць. "Ты іх не бачыш, але вачамі веры ты іх адчуеш, што яны ёсць у тваім жыцці." І я гэта ўсё жыццё адчувала.

Я нарадзілася 20 студзеня, а ўжо праз дванаццаць дзён, 2 лютага, на Грамніцы, мяне павезлі хрысціць у Шаркаўшчыну, у касцёл. Ехаць трэба было трынаццаць кіламетраў. Справа ў тым, што тады была вельмі снежная зіма, на кані можна было ехаць толькі па рацэ. Вось і павезлі мяне ў падушках. І анёл-ахоўнік зберог мяне ад хваробаў, ад гэтага лютага марозу, ад усіх нягодаў, якія маглі мяне як дзіця напаткаць.

Мама мяне навучыла розным малітвам, каб падрыхтавацца да Першай Камуніі. Касцёл у гэты час у Шаркаўшчыне ўжо зачынілі, і яна павезла мяне да першай споведзі на цягніку ў Мёры. Туды мы паехалі ў чатыры гадзіны раніцы, а назад вярталіся ўжо вечарам. Паколькі бацька працаваў тады брыгадзірам на чыгунцы, машыніст таварнага цягніка згадзіўся ўзяць нас падвесці. Спыняцца было нельга, ён крыху прытармазіў, і я, дзевяцігадовая дзяўчынка, разам з маці саскочыла з цягніка. І тут, я лічу, нам дапамог анёл-ахоўнік, бо я ж тады магла і пакалечыцца.





**– Вы і зараз верыце ў анёлаў-ахоўнікаў?**

– Я веру, што анёл-ахоўнік ёсць у кожнага чалавека, што ён дапамагае нам, калі да яго памаліцца. Хоць мы іх не бачым, але яны ёсць.

Калі ў дарослым узросце ў маім доме з'явілася Біблія, я больш даведалася пра анёлаў. Будучы ў розных краінах: у Германіі, Расіі, Польшчы, наведвала там храмы, музеі і карцінныя галерэі. І заўсёды мяне прываблівалі абразы і карціны з выявамі анёлаў. І ўсюды яны паказваюцца як Божыя пасланнікі (анёл з грэцкай мовы і перакладаецца як "пасланнік" – заўв.аўт.) з двума крыламі, каб хутчэй данесці волю Божую. І вось чытанне Бібліі заахвоціла мяне больш даведацца пра гэтых нябесных пасланнікаў. Бо ў Святым Пісанні яны сустракаюцца даволі часта – як у Старым Запавеце, так і ў Новым.

Усё гэта і падштурхнула мяне да чытання іншай духоўнай літаратуры пра анёлаў. Найчасцей іх паказваюць як юнакоў у светлым адзенні, што азначае чысціню, і з крыламі за спіной – як сімвал хуткасці, з якой яны выконваюць Божую волю. У Святым Пісанні часцей сустракаем галоўных анёлаў – Міхала, Рафала і Габрыэля. Дарэчы, архранёл Міхал з'яўляецца нябесным заступнікам Беларусі, і ў храме мы да яго молімся.

**– З чаго пачалася Ваша калекцыя?**

– Самы першы анёл – мой падарунак дачцэ Марыне на дзень нараджэння. З яго ўсё і пачалося. Потым ёй дарылі анёлаў сяброўкі, то можна сказаць, што пачынальнікам гэтай калекцыі была менавіта дачка.

**– І колькі часу Вы іх збіраеце?**

– Калі мэтанакіравана, то ўжо больш за дзесяць гадоў. Але гэта што тычыцца калекцыі, а цікаўлюся я імі вельмі даўно, з самага дзяцінства. І хочацца адзначыць, што для мяне важна не толькі збіраць прыгожыя фігуркі, але і штодзённая малітва да свайго анёла-ахоўніка, а таксама і маіх дзяцей.

**– Чыя напачатку была гэта ідэя – збіраць выявы анёлаў: Ваша ці дачкі?**

– Мая. Пасля з'яўлення першых анёлаў, я падумала, што гэтым варта заняцца. Потым і сын падараваў фігурку, якая цалкам зроблены з ільну. Вось такі беларускі анёл.

Марына шмат дапамагае з маёй калекцыяй. Яна прывозіць мне анёлаў са сваіх беларускіх і замежных паездак. Вось анёл з Польшчы, вось з Партугаліі. А вось шакаладны анёл, які прыехаў з Масквы.

Паколькі муж і сын любілі матацыклы, то я набыла анёла-байкера. У мяне ў калекцыі ёсць фігуркі, якія свецяцца, ёсць анёлы-свечкі, выявы анёлкаў з рознымі музычнымі інструментамі, а таксама саламяны, гліняны, драўляны, шкляны, вязаны, на магнітах, з бісеру і іншыя.

Частка калекцыі - падарункі кансэкраваных асоб. Нават ад галоўнага рэдактара "Каталіцкага Весніка" ксяндза Віктара маю анёла ў сваёй калекцыі.

Потым я стала збіраць усё, што звязана з анёламі: паштоўкі, вышытая хусцінка, кубкі. Ёсць манета з выявай анёла, які прывезены з Кёльна.

Будучы на пенсіі, яшчэ пэўны час працавала настаўніцай у школе, але ўжо год не працую, таму збіраюся яшчэ сама вышыць анёла. Я лічу, што вельмі добра падарыць знаёмым ці блізкім анёла на дзень нараджэння, на хрост дзіцяці. Вось гэту фігурку анёла ўжо купіла на падарунак.

**– А не шкадуеце ў душы, калі дорыце, бо калекцыя ж змяншаецца?**

– *(Смяецца)* Не, тады я заўсёды іх купляю ў двух экзэмплярах.

**– А адмыслова не лічылі, колькі іх у Вас?**

– А як жа! Вядома, лічыла! Зараз у мяне 403 анёлы. Вядома ж, можна было і больш іх сабраць, але я адмыслова не купляю вялікіх анёлаў, бо яны займаюць шмат месца, а ў нас яно абмежаванае.

**– Ну што ж, жадаем Вам дайсці ў гэтай справе да тысячы!**

Каталіцкі ВЕСНІК №3(84) сакавік 2018 г.



# Ксёндз Аляксандр Баран:
# Усе найлепшыя думкі

**Першым месцам працы Аляксандра Барана быў Браслаўскі райвыканкам. У 1999 годзе ён, выпускнік Рыжскага тэхнічнага ўніверсітэта, заняў адказную пасаду галоўнага архітэктара раёна. Праца была па душы, аднак усё часцей ахоплівалі думкі: яго пакліканне зусім у іншым.**

**Іна Сняжкова**

Рашэнне паступіць у семінарыю было асэнсаваным і ўзважаным. Пра тое, якім было жыццё да яго і якім стала пасля – у інтэрв'ю са святаром, які з нядаўняга часу служыць у Лынтупскай парафіі.

**– Калі ласка, раскажыце пра сваю малую радзіму, сваё дзяцінства.**

– Я нарадзіўся ў Слабодцы Браслаўскага раёна, якая славіцца сваім надзвычай маляўнічым касцёлам. Бацька ўсё жыццё адпрацаваў настаўнікам у школе (выкладаў фізіку і матэматыку), мама – медсястрой. Усе свае канікулы я праводзіў у Прыбалтыцы у сваякоў, таму Літву, Латвію, Эстонію ведаю як свае пяць пальцаў і магу смела называць іх другой малой радзімай. Ведаю там і многія парафіі, святароў. Адчуваю сябе там як свой сярод сваіх.

**– Ваша сям'я была верніцкай?**

– Так. Нягледзячы на вельмі няпросты час, калі рэлігія і ўсё, што было з ёй звязана, пераследавалася дзяржавай. Аднак не было такой нядзелі, каб наша сям'я не ішла ў касцёл. У таты праз гэта здаралася нямала непрыемнасцяў на працы. Тым не менш на Вялікдзень ён заўсёды фарбаваў некалькі латкоў яек – каб усім вучням хапіла. Заўсёды расказваў ім, чаму існуе такая і іншыя традыцыі, які ў гэта закладзены сэнс.

Балансаваць паміж службовымі абавязкамі і ўнутранымі перакананнямі было няпроста. Вось падыходзяць да яго ў школе напярэдадні Калядаў і загадваюць: "Сёння падчас класнай гадзіны Вы павінны затрымаць дзяцей як мага даўжэй". А як ён будзе іх затрымліваць, калі самога дома чакаюць трое малых? Яны не могуць дачакацца моманту, калі будуць упрыгожваць ёлку. Тут да Вігіліі трэба рыхтавацца, а не класныя гадзіны праводзіць! І неяк удавалася бацьку ўсё залагоджваць. Ён памёр сем гадоў назад. Нехта разумны аднойчы сказаў: "Пра тое, якім быў чалавек, найлепш сведчыць яго пахаванне". Дык вось касцёл у Слабодцы ў той дзень быў перапоўнены.

**– Якімі былі Вашы першыя крокі да Бога?**

– Паглыбленага вывучэння рэлігіі не было. Нас вучылі самым простым ісцінам. Сёстры-эўхарысткі рыхтавалі да Першай Камуніі, прычым на свой страх і рызыку. Сястра Малгажата ў Слабодцы вазілася з намі як курыца з куранятамі. Памятаю, пасадзіць летам у лодку мяне, іншых дзетак, якія прыязджалі адусюль да бабуль, адплыве недалёка ад берага возера – і вучыць Катэхезе. Дарослыя імкнуліся давесці дзетак да сакраментаў, да пазнання Бога. Каб і споведзь была, і Камунія, каб нехрышчоны стаў ахрышчаным. Касцёл у Слабодцы амаль не зачыняўся. Тым не менш сясцёр ганялі, каралі, але іх гэта не стрымлівала. У год, калі я ішоў да Першай Камуніі, адначасова па Браслаўскім раёне да гэтага Сакраманту прыступала 180 дзетак. Ажно 180! Гэта стала магчымым дзякуючы агульным намаганням ксяндзоў і найперш сясцёр з Браслава і Слабодкі. Памятаю, што да споведзі мы прыступалі ў зачыненым касцёле. Пры гэтым адна сястра дзяжурыла на вуліцы. Мы ж ішлі ў храм абходным шляхам, хаваючыся. Такі быў час.

**– Пра якую прафесію марылі ў школе?**

– Што хачу стаць святаром, асабліва не задумваўся. Магчыма, нейкія ўнутраныя адчуванні былі, але не да канца адкрытыя. Пасля службы ў арміі паступіў у Рыжскі політэхнічны інстытут *(потым яго перайменавалі ў тэхнічны ўніверсітэт – аўт.)* на спецыяльнасць "Архітэктура". Там жа, у Рызе, была адзіная ўсесаюзная духоўная семінарыя, і на другім-трэцім курсе ў мяне з'яўляліся думкі вучыцца менавіта ў семінарыі. Але штосьці стрымлівала. Воля Божая была на тое, каб я ўсё ж скончыў універсітэт. Мне сапраўды падабалася займацца праектамі, весцю ўсю звязаную з архітэктурай работу. Усё нядрэнна атрымлівалася. Ды і работу не шукаў: сама мяне знайшла. У Браслаўскім райвыканкаме вызвалілася пасада галоўнага архітэктара раёна, прапанавалі мне. На ёй прабыў з 1999-га па 2002 гг.

**– Што пры гэтым было самым складаным?**

– Ва ўніверсітэце мала практыкі. Работа стала своеасаблівай школай, як трэба паводзіць сябе з людзьмі, як разбірацца са скаргамі і выходзіць з нестандартных сітуацый. Вось жывуць суседзі ўсё жыццё побач, а потым аказваецца, што адзін з іх "захапіў" у другога пятнаццаць сантыметраў зямлі. І трэба разбірацца, марнаваць шмат часу і сіл, і ўсё роўна выслухваць прэтэнзіі пакрыўджаных законам.

У той час многія касцёлы аднаўляліся, будаваліся. Без дазволу архітэктара нічога не рабілася. Было шмат працы з дакументамі, часам вельмі няпростай. Патрэбна было прымаць шэраг важных рашэнняў. І тут маім найлепшым дарадцам стаў касцёл. Менавіта ў ім заўсёды прыходзяць найлепшыя думкі, ідэі. Бывае, сядзіш за працоўным сталом за стосам папер, разам з іншымі спецыялістамі ламаеш галаву, як вырашыць праблему. А потым ідзеш у касцёл – і цябе там літаральна асяняе. Тады я стаў больш цесна супрацоўнічаць з ксяндзамі. Мае ранейшыя памкненні зноў абудзіліся, адкрыліся па-новаму. Калі раней не хапала рашучасці, то цяпер яна з'явілася.

**– Хто дапамог ажыццявіць смелую ідэю?**

– Найперш заручыўся падтрымкай тагачаснага біскупа Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслава Бліна. Ён і накіраваў мяне ў семінарыю. Там адразу зразумеў, што ў гэтым маё сапраўднае пакліканне. Мяне падтрымалі бацькі, ніхто не адгаворваў. Вучыўся я ў Польшчы: пяць гадоў – у Кельцах, два – у Чэнстахове. Цяжкасці? Былі толькі з мовай, і то па першым часе. Мне пашчасціла атрымліваць адукацыю ў надзвычай моцных, прафесійных выкладчыкаў, абсалютна кожнаму з якіх можна сказаць "вялікі дзякуй". Там жа, у Польшчы, атрымаў шмат практыкі, непрацяглы час быў у Заходняй Украіне. Пасля вяртання ў Беларусь – крыху ў Бешанковічах. А пасля сем гадоў у парафіі ў Новалукомлі.

**– Як там працавалася?**

– Горад выдатны, малады, сучасны. Аднак уявіце: пры насельніцтве ў 18 тысяч на маю першую святую Імшу ў зусім яшчэ новы касцёл прыйшло чалавек 20-25. Памятаю: яны разышліся, а я сяджу на лаўках са слязьмі на вачах. У думках звяртаўся да Пана Бога: "Для чаго было будаваць гэты храм, калі тут амаль няма вернікаў? А з іншага боку, на ўсё Твая воля. Калі Ты хочаш, каб я тут быў, каб я тут штосьці зрабіў, дапамажы мне". І я нават не ведаю, адкуль узяліся сілы, сродкі, энтузіязм.

Усё пайшло само па сабе. Маленькімі крокамі рухаліся наперад. Калі ад'язджаў, на нядзельнай Імшы было пад сотню пастаянных вернікаў. У святы ў касцёле яблыку не было дзе ўпасці.

**– Што натхняла ў рабоце?**

– Падзяка, узаемадапамога. Цэлых шэсць гадоў я дабіваўся дазволу ўстанавіць на ўездзе ў горад каталіцкі крыж, шэсць гадоў абіваў парогі розных службаў. На што атрымліваў абсурдныя, нават смешныя адгаворкі. Для мяне гэта было важнае пытанне. Крыж – гэта і знак нашай веры, і знак Божага блаславлення... Тут можна цэлую кнігу напісаць пра яго значэнне. За дзень да майго ад'езду з Новалукомля крыж быў устаноўлены.

Незадоўга да гэтага адбывалася перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай. Мы сустракалі яе ў пачатку горада, прайшлі працэсіяй па вуліцах да касцёла. Людзі глядзелі, цікавіліся, было разуменне таго, што адбываецца. Паказальна, што па прыездзе ў Лынтупы мяне таксама сустракала фігура Маці Божай Фацімскай. Гэта цяжка патлумачыць. Да Маці Божай звяртаюся ў любых, нават самых складаных сітуацыях. Яе апеку адчуваю на працягу ўсяго жыцця, яшчэ з самага дзяцінства, калі ўдзельнічаў у пілігрымках у Вільню да Маці Божай Вострабрамскай.

Асаблівасць Новалукомльскай парафіі ў тым, што яна маладая. Людзі там у нейкай ступені адарваныя ад сваіх каранёў, з'ехаліся туды з розных мясцін. Касцёл якраз дае прывязанасць, магчымасць адчуць гэтыя карані.

**– Якім было Ваша першае знаёмства з Лынтупамі?**

– Тут усё па-іншаму. Парафія вялікая, касцёл будаваць не трэба. Галоўная задача – захаваць моцную рэлігійную традыцыю, якая склалася здаўна.



# прыходзяць у касцёле!”

Безумоўна, калі ўпершыню на Імшы выйшаў да такой колькасці людзей, невялікае хваляванне прысутнічала. Гэта натхніла: ёсць для каго працаваць.

У Лынтупах шмат людзей старэйшага пакалення, дзякуючы каторым мы маем касцёл, вернікаў сярэдняга, малодшага ўзросту. Я быў прыемна ўражаны той павагай у адносінах да бабуль і дзядуль, якія вымушаныя дажываць свой век у мясцовым так званым “доме састарэлых” *(гаворка ідзе пра аддзяленне кругласутачнага знаходжання Пастаўскага ТЦСАН – аўт.)*. Людзі, якія ўсё жыццё пражылі з Богам, якія толькі на Яго і спадзяюцца, аднак якія ўжо не маюць магчымасці хадзіць у касцёл, дзякуючы неабыякаваму кіраўніцтву могуць маліцца са святаром, спавядацца, атрымліваць намашчэнне, браць Камунію, дзяліцца аплаткай… І я, і сёстры з парафіі з радасцю туды наведваемся. Нам нескладана, мы адкрытыя. Вялікі дзякуй за гэты клопат загадчыцы Н. Т. Гатоўскай. Не ўсюды ёсць такое разуменне праблемнага і вельмі тонкага пытання.

**– Як Вы яшчэ ўдзельнічаеце ў грамадскім жыцці мястэчка?**

– Вельмі добра ў парафіі пастаўлена работа з мясцовай школай. Расказваю сваім знаёмым, а яны не вераць, што 1 верасня дзеці, бацькі, настаўнікі спачатку ідуць на святую Імшу, а толькі потым на лінейку. Ніхто не прымушае гэтага рабіць, але касцёл поўны дзетак. На лінейцы ксяндзу слова даецца адначаму з першых. Гэта прыемна, гэта значыць вельмі многае. Касцёл адыгрывае каласальную ролю ў жыцці лынтупчан. Яны разумеюць, што без веры няма будучыні – ні ў краіны, ні ў парафіі, ні ў чалавека. Гэта аснова асноваў. І старэйшыя вельмі клапоцяцца пра духоўнае выхаванне дзяцей. Калі яны з дзяцінства духоўна адукаваныя, яны і ў вялікім горадзе не пераступяць мяжу граху. Сумленне, вера не дазволяць гэтага зрабіць. Сятра Люцына Вонс выдатна працуе з мясцовымі школьнікамі ў араторыуме, умее іх зацікавіць.

> **“без веры няма будучыні – ні ў краіны, ні ў парафіі, ні ў чалавека”**

**– Што новае Вы хочаце прыўнесці ў жыццё парафіі?**

– У першы год складана штосьці гаварыць. Тут важны не толькі мой энтузіязм, але і ініцыятыўнасць парафіян. Вось усе прызнаюць: у Гервятах прыгожа, у Мосары. А я кажу людзям: “Што нам перашкаджае так зрабіць? Хто што бачыць?” Думаю, разам нам удасца і ў плане добраўпарадкавання, і ў іншых пытаннях дасягнуць новых поспехаў. Я падтрымліваю зносіны з ксяндзом Паўлам Кнурэкам, які быў тут да мяне, ён цудоўны, добры, адкрыты чалавек. Ім праробленa сапраўды вялікая праца.

**– Дзе больш камфортна сябе адчуваеце: у вялікім горадзе ці ў невялікім мястэчку?**

– Я не люблю вялікі горад, шматкватэрныя дамы, дзе ніхто нікога не ведае, дзе лесвічная клетка сапраўды клетка. Тут каго б ні сустрэў – ведаеш, чым чалавек жыве, якія ў яго цяжкасці і радасці. Ён дзеліцца імі, па-чалавечы адкрывае душу. Вось была нядаўна ў Лынтупах мая хросная маці. Яе ніхто не ведае, а ўсе вітаюцца. Ёй прыемна. Людзі заўважаюць гасцей, умеюць суперажываць, хвалявацца. І гэта іх упрыгожвае.

**– Як Вы любіце адпачываць?**

– У мяне шмат сяброў у самых розных пунктах нашай планеты. Многія аднакурснікі жывуць у Францыі, Іспаніі, Амерыцы, Перу… Сярод іх ёсць грузіны, чэчэнцы, дагестанцы… Часта атрымліваю ад іх запрашэнне наведацца ў госці, па магчымасці раблю гэта. І сам з задавальненнем прымаю гасцей. Летась у Навалукомлі за тры месяцы мне давялося сустрэць паўсотні чалавек – з ліку сяброў, знаёмых, родных.

А бывае, што хочацца спакою, цішыні, каб хаця б тыдзень маўчаў мабільны тэлефон. Усе мы людзі, хтосьці можа сапсаваць настрой. Каб яго аднавіць, мне дастаткова… пачаць гатаваць. Або зрабіць штосьці сваімі рукамі, пасадзіць нешта. Кнігі таксама даюць выдатна адпачыць. Сярод любімых пісьменнікаў – Марыс Друон, Валянцін Пікуль. Магу чытаць творы па некалькі разоў, і кожны раз адкрываць у іх штосьці новае.

**– Вашы пажаданні вернікам напярэдадні свята Уваскрасення Пана.**

– Каб Бог заўсёды быў у сэрцах! Мы выдатна разумеем, што Хрыстос перамог смерць, што Ён Пераможца, Збаўца. Хочацца, каб у кожнага з нас была індывідуальная Пасха. Каб граху было меней, а дабра стала больш. Каб было адчуванне, што мы недарэмна перажываем гэты час Вялікага посту. Каб кожны, просячы ў Бога дапамогі, задаў сабе пытанні: “А з чым я прыйшоў да Яго? З якім сэрцам? Якімі пачуццямі?” І абавязкова знайшоў адказы. І тады Вялікдзень стане сапраўды вялікім святам!

# Вялікапосны тэст

**Прапануем вам прайсці наступны тэст.**

**1** Што з пералічанага не бласлаўляюць у Вялікі Чацвер?



**А.** Алей;
**Б.** Свечкі;
**В.** Мёд.

**2** У якіх арнатах святары цэлебруюць святую Імшу Хрызму ў Вялікі Чацвер:



**А.** У фіялетавых;
**Б.** У белых або залатых;
**В.** У чырвоных.

**3** У якую нядзелю Вялікага посту звычайна адбываецца закрыццё крыжоў фіялетавай тканінай:



**А.** У першую;
**Б.** У пятую;
**В.** У чацвёртую.

**4** Прыгадайце, што сказаў Езус у Евангеллі паводле Мацвея пра пост. Якое слова неабходна паставіць замест шматкроп'я?

“Калі пасціце, не будзьце…”



**А.** Панурыя;
**Б.** Злыя;
**В.** Бяздзейсныя.

**5** “Песні жальбы” – адно з найбольш папулярных набажэнстваў Вялікага посту. А ў якой краіне яно ўзнікла?



**А.** У Польшчы;
**Б.** У Італіі;
**В.** У Іспаніі.

**6** З колькіх частак складаецца “Песні жальбы”?



**А.** З 14-ці;
**Б.** З 3-ох;
**В.** З 5-ці.

**7** Выберыце правільны адказ. Восьмая стацыя Крыжовага шляху расказвае … :



**А.** Пра тое, як Езус падае пад цяжарам Крыжа трэці раз;
**Б.** Пра тое, як Вераніка выцірае твар Езуса;
**В.** Пра тое, як Езус суцяшае ерусалімскіх жанчын.

**8** Дзень, у які святары ляжаць крыжам перад алтаром?




**А.** Вялікі Чацвер;
**Б.** Вялікая Пятніца;
**В.** Вялікая Субота.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

***Правільныя адказы глядзіце на старонцы 12***

# Беларусь у “святых” гербах: Янаў

**Гэтая мясцовасць стала славутай для нас, католікоў, па прычыне трагічнай смерці вялікага місіянера Палесся св. Андрэя Баболі. Менавіта там святар-езуіт пасля жорсткіх катаванняў і здзекаў атрымаў вянец мучаніка за веру.**

**■айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Пошукі на карце мясцовасці Янаў не прывядуць нас да паспяховых вынікаў. Калі будзем пільнымі, знойдзем у Брэсцкай вобласці раённы цэнтр Іванава з насельніцтвам каля 16 тысяч чалавек. Гэта і ёсць колішні Янаў, які сваю гістарычную назву насіў да 1940 г., калі і быў пераназваны бальшавіцкай уладай на рускі лад – Іванавам.

Янаў ніколі не меў Магдэбургскага права, таму такcама не меў і гістарычнага герба. Хаця і карыстаўся гербам свайго колішняга гаспадара, біскупа Яна Ласовіча. Сённяшні герб Іванава – гэта новаўтварэнне з 2011 г. Герб цікавы для нас тым, што на ім ёсць выява хрысціянскага храма. Па крыжах на вежах можам вызначыць, што гэта праваслаўная царква. І сапраўды, у цэнтры горада стаіць царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы, пабудаваная ў 1901 г. У праектах герба, распрацаваных для Янава Андрэем Шпунтом, было больш зваротаў да каталіцкай гісторыі мясцовасці, але, на жаль, яны не браліся пад увагу.



І выява царквы, і падкова сімвалізуюць цікавую гістарычную з'яву – працу па збіранні ахвяраванняў на рамонт і будову храмаў людзьмі, якіх звалі “ла́бары”. Гэта былі жыхары Янава, у большасці праваслаўныя, якія карысталіся прывілеямі ў падатках. Плацілі менш чым іншыя, таму мелі нашмат больш вольнага часу і прыдумалі, як яго выкарыстоўваць. Жабравалі, збіраючы сродкі для цэркваў, не грэбуючы прымацьу ахвяру не толькі грошы. Даследчыкі зазначаюць, што ў сваіх падарожжах ла́бары праходзілі неймаверныя адлегласці, таму былі вядомыя на тэрыторыях ад Балтыйскага мора да Чорнага. Іх паслугамі ахвотна карысталіся настаяцелі праваслаўных храмаў.



# Каляндар на красавік

**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень.**

**1 красавіка – Вялікдзень.**

Дзень Уваскрасення Пана, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзеляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – дзень сямейны.

**8 красавіка – нядзеля Божай Міласэрнасці.**

Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам II у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю.

**9 красавіка – свята Звеставання Пана.**

Гэта дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад яе сэрцам з'явіўся Хрыстос. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы "Evangelium vitae", абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі "так" новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

**25 красавіка – успамін святога Марка, евангеліста.**

Марк быў вучнем і перакладчыкам святога апостала Пятра, які называў яго "сваім сынам". Ён з'яўляецца аўтарам другога Евангелля, найкарацейшага з чатырох. Паводле Новага Запавету, Марк быў сынам Марыі з Ерусаліма, у доме якой рэгулярна збіраліся першыя хрысціяне. Лічыцца, што ён быў першым біскупам Александрыі, дзе дзякуючы яго дзейнасці станавілася ўсё больш і больш хрысціянаў. Раздражнёныя гэтым паганцы схапілі Марка, калі ён служыў святую Імшу, і цягнулі яго на вяроўцы па вуліцах горада. Не перажыўшы такога здзеку, на наступны дзень Марк памёр. Яго рэліквіі знаходзяцца ў катэдры Сан-Марка ў Венецыі, апекуном якой ён з'яўляецца. Сімвал евангеліста – леў.

Святы Марк лічыцца апекуном пісьменнікаў і мастакоў, праз яго заступніцтва сяляне просяць добрага надвор'я і спрыяльных дажджоў.

## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння наступных святароў і біскупаў:

1 красавіка – дзень нараджэння адзначаюць **ксёндз-пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расіца)*;

4 красавіка – дзень нараджэння адзначае **дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі;**

8 красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*;

10 красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

11 красавіка – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **а. Тадэвуш Кавальскі OFM Cap** *(Докшыцы)*;

13 красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

17 красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

19 красавіка – імяніны адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Люблін)*;

22 красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

23 красавіка – імяніны адзначаюць **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*, **кс. Ежы Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

24 красавіка – дзень нараджэння адзначае **а. Ян-Валерыян Хернік OFMConv** *(Удзела)*;

25 красавіка – імяніны адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

26 красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Усебеларускія рэкалекцыі цвярозасці пройдуць у Баранавічах

**З 13 па 15 красавіка ў Баранавічах адбудуцца Усебеларускія рэкалекцыі цвярозасці.**

Да ўдзелу ў духоўных практыкаваннях запрашаюцца ўсе неабыякавыя да праблемы алкагалізму і наркаманіі ў нашай краіне.

Арганізуе рэкалекцыі душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: **+37533 325-57-64, Юрый Гапонік.**

**Адрас:** Дом айцоў-вербістаў, г. Баранавічы, вул. Шаўчэнкі, 6.

*Паводле матэрыялаў grodnensis.by*



# Святы Ізыдор (554-636)

## Святы, які апярэдзіў Інтэрнэт




**Напрыканцы жыцця ў доме св. Ізыдора, арцыбіскупа Севільі, было не праціснуцца ад жабракоў і абяздоленых. Кожны, хто меў жыццёвую патрэбу або нястачу, менавіта ў гэтага іспанскага пурпурата шукаў дапамогі. Аднак сёння нам гэты святы вядомы з іншай прычыны... У 1996 г. яго абвясцілі апекуном праграмістаў, інтэрнэту і яго карыстальнікаў.**

**айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Расіца*

Мяне асабіста раздражняла гэта інфармацыя: вось ёсць святы – апякун інтэрнэту. Ну як гэта магчыма? А калі я даведаўся, што гэта біскуп з пералому 6-7 стст., то яшчэ больш скептычна пачаў ставіцца да такога выдуманага апякунства. Я і не падазраваў, на колькі памыляюся!

Біскуп Ізыдор быў суперадукаваным чалавекам сваёй эпохі! Нягледзячы на тое, што быў духоўнай асобай, ён цікавіўся не толькі тэалогіяй, але таксама і медыцынай, правам, геаграфіяй, гісторыяй, нават астраноміяй! Спіс твораў біскупа дастаткова вялікі, але славу здабылі яго "Этымалогіі" – 20-тамовая энцыклапедыя, першая ў гісторыі. Больш за тое, цікава, што веды з розных галінаў дзейнасці чалавека Ізыдор прыдумаў размеркаваць па групах. І зрабіў задуманае такім чынам, што сучаснаму чытальніку гэта прыпамінае расклад інтэрнэт-старонкі (!)

Біскуп Ізыдор – унікальны чалавек для сваёй эпохі. Прысвячаючы шмат часу пісанню твораў і справам адукацыі, ён не занядбоўваў пастырства. Клапаціўся пра адукаванасць свайго клеру, стараўся, каб пры катэдрах паўставалі спецыяльныя багаслоўскія школы, зарадак будучых духоўных семінарый. З іншага боку, ён клапаціўся пра адзінства мясцовага Касцёла: дамогся, каб сіноды, дзе вырашаліся важныя пытанні, адбываліся рэгулярна. Менавіта намаганні біскупа Севільі дазволілі ўніфікаваць літургічныя традыцыі.

Ва ўзросце 82 гадоў, прадчуваючы блізкую смерць, св. Ізыдор папрасіў дапаможных біскупаў завезці яго ў катэдру. Там на вачах духавенства і вернікаў ён апрануў на сябе пакутнае адзенне. Усе бачылі, як на знак пакаяння пасыпаў сабе галаву попелам і, заліты слязьмі, паспавядаўся. Ва ўсіх прысутных папрасіў прабачэння за свае грахі і з кожным, хто быў у храме, развітаўся пацалункам супакою. Праз чатыры дні св. Ізыдор адышоў у вечнасць.

# Касцёл і Брацтва святога Пія X

*“Добры дзень. Растлумачце, калі ласка, якая зараз пазіцыя Рыма-Каталіцкага Касцёла адносна Святарскага Брацтва святога Пія X (FSSPX). У чым яго дагматы не супадаюць з афіцыйнай пазіцыяй Касцёла і ў чым падобныя? Ці можа рыма-католік прыходзіць на Імшу, якая цэлебруецца святарамі Брацтва”.*
*Антон*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўны Антон! Дзякуй за пытанне, з якім, магчыма, шматлікія чытачы “Каталіцкага Весніка” сустракаюцца ўпершыню. Спадзяюся, што адказ хоць крыху пазнаёміць з рэчаіснасцю малавядомага ў Беларусі Святарскага Брацтва святога Пія X, а таксама заахвоціць да малітвы аб еднасці Касцёла.

## Гісторыя

Святарскае Брацтва святога Пія X, назва якога па-лацінску гучыць Fraternitas Sacerdotalis Sancti Pii X (адсюль і скарачэнне FSSPX), узнікла ў Швейцарыі ў 1969 годзе па ініцыятыве рыма-каталіцкага арцыбіскупа на пенсіі Марселя-Франсуа Лефебра. Адной з галоўных мэтаў новай каталіцкай супольнасці стала, між іншым, стварэнне духоўных семінарый дзеля сапраўднай фармацыі святароў, а таксама дбанне пра традыцыю. Афіцыйна Брацтва было зацверджана 1 лістапада 1970 года біскупам Лазаны, Жэневы і Фрыбурга Фарснула Шарэрам. Цэнтрам супольнасці стала швейцарская мясцовасць Экон, дзе была заснаваная першая духоўная семінарыя Брацтва.

На жаль, у хуткім часе высветлілася, што сваёю мэтаю сябры Брацтва ставяць не толькі захаванне касцельнай традыцыі і трыванне пры ёй, але таксама супраціў адносна пастаноў Другога Ватыканскага Сабору. Арцыбіскуп Лефебр, які асабіста ўдзельнічаў у працах Сабору, цяпер як генеральны настаяцель FSSPX абвінавачваў Касцёл у неамадэрнізме і неапратэстантызме. У сувязі з распаўсюджваннем звестак аб празмернай крытыцы вучэння Паўсюднага Касцёла, у 1974 годзе Апостальская Сталіца прызначыла візітацыю духоўнай семінарыі ў Эконе. У адказ арцыбіскуп Лефебр у дэкларацыі з 21 лістапада 1974 года, пацвярджаючы сваю прыналежнасць да Каталіцкага Касцёла, сказаў: “Усім сэрцам і ўсёй душою мы належым да Каталіцкага Рыма, захавальніка каталіцкай веры і традыцый, неабходнай для яе захавання, да вечнага Рыма, настаўніка праўды і мудрасці. Мы адмаўляемся, аднак, і заўсёды адмаўляліся прытрымлівацца Рыма з тэндэнцыямі неамадэрнізму і неапратэстантызму, якія выразна праявіліся падчас Другога Ватыканскага Сабору, а пасля Сабору – ва ўсіх рэформах, якія вынікаюць з яго”[1]. Ватыкан працягваў дыялог з арцыбіскупам Лефебрам і заклікаў таго падпарадкавацца Святому Айцу.

Паколькі падчас узгаданай візітацыі ў семінарыі былі выяўлены дактрынальныя парушэнні, якіх Брацтва не згаджалася выправіць, мясцовы біскуп, пасля кансультацыі з Апостальскай Сталіцай, 6 мая 1975 года прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці як семінарыі, так і Брацтва. Арцыбіскуп Лефебр не падпарадкаваўся гэтаму рашэнню, а ў 1976 годзе без згоды мясцовага біскупа ўдзяліў святарскае пасвячэнне навучэнцам узгаданай семінарыі. У сувязі з гэтым 22 ліпеня 1976 папа Павел VI спыніў дзейнасць Брацтва, а арцыбіскупа Марселя Лефебра пакараў суспенсай.

> **“Сваёю мэтаю сябры Брацтва ставяць супраціў адносна пастаноў Другога Ватыканскага Сабору”**

Дыялог і імкненне да вырашэння праблем не былі спыненыя, аднак не прынеслі і чаканых вынікаў. Сітуацыю пагоршыла пасвячэнне арцыбіскупам Лефебрам без згоды Святога Айца чатырох біскупаў, якое было здзейснена 30 чэрвеня 1988 года. Згодна з каталіцкім заканадаўствам, такі чын выклікае экскамуніку біскупа, які ўдзяляе пасвячэнне, і тых, хто яго прымае. Святы Айцец Ян Павел II выдаў адпаведны дакумент з інфармацыяй пра экскамуніку 2 ліпеня 1988 года[2].

Арцыбіскуп Марсель-Франсуа Лефебр памёр 25 сакавіка 1991 года ва ўзросце 85 гадоў. У 2000 годзе дыялог паміж FSSPX і Апостальскай Сталіцай быў адноўлены і інтэнсіфікаваўся ў час пантыфікату Папы Бэнэдыкта XVI. Адказваючы на просьбу экскамунікаваных біскупаў, 21 студзеня 2009 года Папа Бэнэдыкт XVI зняў з іх экскамуніку. Гэты факт не азначае поўнай кананічнай еднасці Брацтва з Паўсюдным Касцёлам, а дыялог далей працягваецца.

## Сутнасць канфлікту

Магчыма, значная частка чытачоў звязвае праблемы Брацтва святога Пія X з разыходжаннем адносна цэлебравання літургіі. Сапраўды, сябры Брацтва не прынялі літургічнай рэформы Другога Ватыканскага Сабору і працягваюць здзяйсняць сакраманты паводле прынцыпаў Трыдэнцкага Сабору. Аднак гэта не адзіная прычына разыходжання FSSPX з навукай Паўсюднага Касцёла. Святы Айцец Ян Павел II у 4 нумары Motu proprio Ecclesia Dei ад 2 ліпеня 1988 года паказаў крыніцы канфлікту ў няпоўным і ўнутрана супярэчлівым разуменні Традыцыі з боку Брацтва: “(...) асабліва супярэчлівым з'яўляецца разуменне традыцыі, якое выступае супраць універсальнага Настаўніцкага Інстытута Касцёла, каторы належыць біскупу Рыма і Калегіі Біскупаў. Нельга заставацца верным традыцыі, разрываючы касцельную сувязь з тым, каму ў асобе апостала Пятра сам Хрыстос даручыў у сваім Касцёле служэнне адзінства”[3]. Папа тлумачыць тут, што традыцыя мае жывы і дынамічны характар дзякуючы Духу Святому, Які вядзе Касцёл ад часоў Апосталаў. Менавіта памылковае разуменне традыцыі нараджае адмоўнае стаўленне да некаторых элементаў навучання Паўсюднага Касцёла. Сябры Брацтва лічаць, што Касцёл перажывае ўнутраны крызіс, выкліканы лібералізмам і неамадэрнізмам. Асабліва крытычна яны ставяцца да некаторых пастановаў Другога Ватыканскага Сабору, адкідаючы як памылковае навучанне пра рэлігійную свабоду, калегіяльнасць біскупаў і экуменізм.

Святарскае Брацтва святога Пія X адмоўна ўспрымае наступныя саборныя дакументы: Дагматычную Канстытуцыю пра Касцёл *Lumen gentium*, Канстытуцыю пра святую Літургію *Sacrosanctum Concilium*, Дэкрэт пра экуменізм *Unitatis Redintegratio* і Дэкларацыю пра рэлігійную свабоду *Dignitatis humanae*. Узгаданыя дакументы разам з астатнімі з'яўляюцца важнай ды нават інтэгральнай часткай навучання Касцёла і надалей маюць пазітыўны ўплыў на фарміраванне веры і маральнасці католікаў, а таксама адносін з іншымі людзьмі і са светам наогул.

Як было сказана вышэй, Брацтва святога Пія X абвінавачвае Касцёл у лібералізме і пратэстантызме. Асаблівым праяўленнем гэтых тэндэнцый лічаць рэформу літургіі, праведзеную ў 1969 годзе Папам Паўлам VI згодна з пастановамі Сабору. FSSPX крытычна ўспрымае ўвядзенне ў літургію нацыянальных моваў замест лаціны, а таксама цэлебрацыю Эўхарыстыі “тварам да народа”, хоць лічыць яе важнай пры ўмове, што святар цэлебруе яе з уласцівай інтэнцыяй, г. зн. не ў пратэстанцкім духу. Аналіз дактрыны і практыкі жыцця Брацтва святога Пія X паказвае, што яно не толькі крытыкуе Святога Айца і Апостальскую Сталіцу, але таксама праяўляе непаслухмянасць Наступніку Апосталаў. І хоць зроблена шмат крокаў у напрамку паяднання, падаецца, што дарога да поўнай еднасці яшчэ далёкая і патрабуе малітоўнай падтрымкі ўсяго Касцёла.



## Удзел у Імшы, цэлебраванай святарамі Брацтва святога Пія X

Зняцце экскамунікі з чатырох біскупаў Брацтва святога Пія X, пасвечаных у 1988 годзе без згоды Святога Айца, было актам міласэрнасці адносна іх і запрашэннем да вяртання ва ўлонне Касцёла. Трэба, аднак, памятаць, што экскамуніка датычыць асобаў, а не ўстаноў. Пра цяперашні статус сяброў Брацтва ясна і выразна 10 сакавіка 2009 года напісаў Папа Бэнэдыкт XVI: “Брацтва не мае аніякага кананічнага статусу ў Касцёле, а яго распарадчыкі, нават калі з іх было знятае касцельнае пакаранне, не здзяйсняюць правамерна аніякага служэння ў Касцёле”[4].

Такім чынам, біскупы і святары FSSPX маюць сапраўднае пасвячэнне, аднак не належаць да касцельных структураў (дыяцэзіяльных, кансэкраванага жыцця ці іншых) і застаюцца пад пакараннем суспенсы, таму і не маюць права здзяйсняць сакраманты ў Каталіцкім Касцёле. Апостальская Сталіца спадзяецца, што наступіць вяртанне Брацтва да поўнай еднасці з Касцёлам. Аднак да гэтага часу, згодна з Кананічным правам, святары Брацтва здзяйсняюць святыя Імшы нягодна, хоць яны і з'яўляюцца сапраўднымі.

Каталіцкія вернікі не могуць у звычайных абставінах удзельнічаць у Імшах, цэлебраваных святарамі Брацтва святога Пія X. Выключэннем можа быць святая Імша ў нядзелю або ў абавязковую ўрачыстасць, калі хтосьці не мае магчымасці ўдзельнічаць у Эўхарыстыі ў каталіцкай святыні. У такой сітуацыі вернік выконвае касцельны абавязак удзелу ў святой Імшы[5]. Іншай акалічнасцю, якая дазваляла б без небяспекі граху ўдзельнічаць у Эўхарыстыі ў Брацтве, можна палічыць асаблівую прывязанасць вернікаў да надзвычайнай формы святой Імшы (гэта значыць, па-лацінску паводле імшалу Папы Пія V з 1570 года). Аднак падаецца, што ў нашай краіне вельмі мала або наогул няма вернікаў, якія б адзначаліся такой прывязанасцю, беручы пад увагу, што Касцёл у Беларусі пасля Другога Ватыканскага Сабору без перашкодаў перайшоў да здзяйснення сакрамантаў на нацыянальных мовах. Ні ў часы Савецкага Саюза, ні пасля яго распаду на нашай зямлі не засталіся святары, якія былі б выразнымі прыхільнікамі Брацтва святога Пія X і супраціўляліся саборнай рэформе.

Неабходна яшчэ дадаць, што той, хто ўдзельнічае ў літургіі, якую ўзначальвае святар FSSPX, павінен пазбягаць небяспекі памылковага разумення навучання Касцёла ці рэлігійнага індыферэнтызму. Дзеля поўнай карціны варта яшчэ сказаць, што Папа Францішак дазволіў святарам Брацтва святога Пія X правамерна спавядаць вернікаў, якія па розных прычынах наведваюць касцёлы, у якіх прадстаўнікі Брацтва служаць[6]. У мінулым годзе Кангрэгацыя Веравучэння скіравала спецыяльны ліст да біскупаў, які тлумачыць сітуацыю вакол цэлебрацыі сакраманту сужэнства, калі адзін з бакоў належыць да Брацтва. Святы Айцец вырашыў, што мясцовыя ардынарыі могуць даць дазвол на цэлебрацыю сакраманту сужэнства вернікаў, якія знаходзяцца пад душпастырскай апекай Брацтва[7].

Бачна, што Апостальская Сталіца і сам Папа чакаюць і спадзяюцца на вяртанне FSSPX да еднасці з Касцёлам. Паяднанне магчымае ды неабходнае для дабра Касцёла.

Спадзяюся, што гэты адказ заахвоціць чытачоў “Каталіцкага Весніка” да малітвы ў інтэнцыі паспяховага вырашэння канфлікту з Брацтвам святога Пія X.

[1] http://fsspx.news/fr/content/19567.

[2] http://w2.vatican.va/content/john-paul-ii/la/motu_proprio/documents/hf_jp-ii_motu-proprio_02071988_ecclesia-dei.html.

[3] Тамсама.

[4] http://w2.vatican.va/content/benedict-xvi/it/letters/2009/documents/hf_ben-xvi_let_20090310_remissione-scomunica.html.

[5] Пар. *Кодэкс Кананічнага Права*, кан. 844 §2.

[6] Пар. Апостальскі ліст *Misericordiaetmisera*, 12.

[7] Пар.http://be.radiovaticana.va/news/2017/04/04/ватыкан_дакумент_аб_сужэнстве_асоб,_звязаных_з_лефебрыстамі/1303351.



## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч**! Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды Дня святара і са светлым святам Уваскрасення Хрыста!*

*Няхай здароўе Ваша будзе моцным, радасць штодзённай, а ў сэрцы заўсёды хай палае любоў да Бога і людзей! Мы ўдзячныя Богу за ласку спаткання з Вамі. Дзякуем Вам за Божае слова, за аптымізм і чуласць!*

***З пашанай, вернікі касцёла Святога Казіміра ў Лепелі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем паважанага пробашча – **ксяндза Аляксандра Барана** – са светлым Уваскрасеннем Хрыста!*

*Няхай Пан Бог адорвае Вас, ксёндз Аляксандр, сваімі ласкамі, Маці Божая падтрымлівае ў цяжкія хвіліны, а пасеянае Вамі зерне на Божай ніве хай прыносіць добры плён! Здароўя, аптымізму, адкрытых людскіх сэрцаў!*

***Парафіяне лынтупскага касцёла***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Мікалай Лінскі**! Сардэчна віншуем Вас з гадавінай святарскага пасвячэння (8 красавіка) і дасылаем свае пажаданні! Хай кожны Ваш дзень будзе напоўнены дабрынёй, асвечаны Божай ласкай і задавальненнем ад абранага шляху! Няхай Езус Хрыстус, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславіляе на доўгую святарскую працу!*

*Жадаем Вам здароўя, поспехаў, плёну на карысць парафіі, духоўных і фізічных сілаў, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай і любові! Няхай на Вашым твары заўсёды будзе ўсмешка!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сына-святара і зычым ім здароўя, Божага блаславлення і ўсіх ласкаў. Мы дзякуем Вам за ўсё, што Вы зрабілі для нашай парафіі, і памятаем у сваіх малітвах!*

***Вашы былыя парафіяне з Лучая***

## Хвала Хрысту!



*1 красавіка – Дзень нараджэння **айца Чэслава з Росіцы**. Мы віншуем яго і жадаем добрага здароўя і Божай падтрымкі ва ўсіх справах!*

*Са светлым святам Вялікадня віншуем святароў, якія працуюць на Верхнядзвіншчыне: кс. Аляксандра, а. Андрэя і а. Чэслава. Усім жадаем Божай ласкі, дароў Духа Святога і апекі Маці Божай!*

***З павагай, вернікі капліцы Міласэрнасці Божай у Кахановічах***

## Сардэчна віншуем!

*Сардэчна віншуем **ксяндза Мікалая Ціхановіча** з Днём святарства і надыходам раданснага свята Уваскрасення Пана Езуса!*

*Шчыра жадаем Вам, паважаны ксёндз Мікалай, духоўнага плёну ў святарскім служэнні, Божага блаславення, радасці і супакою ад Уваскрослага Збаўцы!*

***Дана Шчоцкая і яе сям'я (Юрацішкі)***



## Віншуем!

*28 сакавіка чарговую гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз Вячаслаў Пялінак**, які працуе ў Ідолце.*

*Шаноўны ксёндз Вячаслаў! З гэтай нагоды прыміце букет самых шчырых і найлепшых пажаданняў! Мы колькі жыць будзем не забудзем, як Вы ўпрыгожвалі набажэнствы сваім спевам, як праводзілі Крыжовы шлях у нашым касцёле. Шчыра жадаем, каб і надалей прамоўленае Вамі Божае слова кранала душы людзей, рабіла іх чыстымі, добрымі, шчырымі і міласэрнымі! Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень Вашага святарскага жыцця, надаюць сілы і моцы для ажыццяўлення новых планаў, задумак на карысць Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу!*

***З вялікай павагай, вернікі з парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, у сэрцах якіх Вы засталіся***

## Хвала Езусу Хрысту!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці нашаму **ксяндзу Вячаславу Пялінку**, які 28 сакавіка адзначае чарговую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Вячаслаў, і за ласку спаткання з Вамі на нашай зямлі! Дзякуем Вам за Божае слова, за Ваша вялікае, добрае сэрца, за цудоўную ўсмешку, за Вашу глыбокую веру, за аптымізм і любоў да людзей!*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Вячаслаў, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога! Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццявіць Вашы мары і задумы!*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, вернікі Ідолтаўскай парафіі***

## Паважаны ксёндз Вячаслаў Пялінак!

*Сардэчна віншуем Вас з 16-й гадавінай святарскага пасвячэння (28 сакавіка)!*

*Жадаем плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога.*

*Няхай з Вашага твару не сыходзіць усмешка, у сэрцы заўсёды палае любоў да Бога і людзей!*

***З вялікай павагай, парафіяне касцёла Нараджэння Панны Марыі ў г. Барысаве***

## Хрыстос Уваскрос!

*Свята гучыць пераможным звонам ва ўсіх касцёлах свету! Да гэтых пераззвонаў далучаем свае віншаванні і мы, "Маргарытка" з парафіі Перамянення Пана ў вёсцы Германавічы.*

*Мы шчыра віншуем нашага **ксяндза Яна Пугачова** з вялікім, светлым святам Вялікадня! Ад усяго сэрца жадаем, каб святло Уваскрасення заўсёды асвячала Ваш шлях, каб Сонца праўды – Хрыстус – сагравала сваім цяплом. Супакою духоўнага, моцнага здароўя, даўгалецця, паразумення, плёну ў працы на Жніве Божым!*



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Ян Пугачоў**! Шчыра віншуем Вас з нагоды Дня святара і са святам Вялікадня! Жадаем Вам Божага блаславення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, велікоднай радасці! Выказваем шчырую падзяку за рэкалекцыі, за Божае слова, за малітву падчас Крыжовага шляху, якая кранула нашыя сэрцы!*

***З удзячнасцю, вернікі касцёла Святога Казіміра, г. Лепель***




## Хвала Хрысту!

*Наш паважаны **біскуп Алег Буткевіч**! Дазвольце ад імя ўсіх парафіян касцёла Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НМП, а таксама ад парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах шчыра і сардэчна павіншаваць Вас з нагоды Дня нараджэння!*

*Жадаем Вам плёну на Божай ніве, Божай ласкі і апекі Маці Божай у гэтай пачэснай справе – весці нас па дарозе да Божага Валадарства! Мы ўдзячныя Вам за сумленнасць і адданасць Божай справе, за Вашу шчырасць, за добрае сэрца і лагодную ўсмешку!*

## Шчыра віншуем!

*З нагоды Дня нараджэння віншуем нашага шаноўнага і ўсімі любімага **біскупа Алега Буткевіча**! Жадаем поспехаў на няпростым шляху Божага паклікання. Здароўя, міру, дабра і цяпла, радасных і сонечных дзён! Няхай шчасце і радасць будуць пастаяннымі спадарожнікамі ў Вашым жыцці! Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй матчынай апекай і вядзе да Нябеснага Валадарства, а Пан Бог хай кіруе ўсімі Вашымі справамі!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне Ідолтаўскай парафіі***

## Шаноўны ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч!

*Ад усіх вернікаў капліцы Святога Юзафа ў аг. Друйск Браслаўскага раёна дасылаем Вам віншаванні з Днём нараджэння!*

*Жадаем Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, нястомнай радасці. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей будуць для нас прыкладам жыцця, а любоў і супакой хай назаўжды застаюцца ў Вашым сэрцы!*

## Шчыра віншуем!

*Ваша Эксцэленцыя, паважаны **біскуп Алег Буткевіч**! З нагоды Дня нараджэння, а таксама надыходу Дня святара дасылаем Вам самыя шчырыя і цёплыя віншаванні! Жадаем, каб шлях, абраны для Вас Богам, асвячала Найсвяцейшая Маці, а добры Езус трымаў Вас ля свайго сэрца і адорваў блаславленнем і патрэбнымі ласкамі, Святы Дух быў шчодры на свае дары, а людзі, якія Вас акружаюць, сталі крыніцай натхнення і шчасця!*

*Няхай Ваша здароўе будзе моцным, а ў сэрцы пасяліцца супакой і дабрыня! Няхай паслуга прыносіць шчодры плён і ніколі не гасне полымя Божай любові ў сэрцы!*

*Шчыра дзякуем за ахвярную працу, добрае і чулае сэрца, за прыгожы прыклад веры!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафій-пабрацімаў Камаі-Клюшчаны***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем нашага пробашча – **ксяндза Мікалая Ціхановіча** і **ксяндза-вікарыя Івана Кароткіна** з нагоды Дня ўстанаўлення сакраманту святарства! Са светлым святам Уваскрасення Пана сардэчна віншуем нашых святароў, а таксама ўсіх святароў, якія служылі ў нашай парафіі, і сясцёр законных. Жадаем шчырай Велікоднай радасці, Божага блаславення, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай Глыбоцкай Падхорнай, мудрасці, сілы і цярплівасці ў шчыраванні на Божай ніве!*



***Удзячныя вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**
1 – Б, В; 2 – Б; 3 – Б; 4 – А; 5 – А; 6 – Б; 7 – В; 8 – Б

са старонкі 9

